


Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень — 27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

9 чэрвеня 2017 года №23 (1154)

# Галерэя на сметніцы ў Маладзечне праіснавала некалькі гадзін

Што сказаць – сумна. Яшчэ раз прадэманстравалі ўзровень культуры і агульнага развіцця жыхароў нашага горада. Не ўсіх, канешне, аднак некаторых... Пра якое развіццё паркавай скульптуры можа цяпер ісці гаворка? Самае цікавае, што ўсе падзеі адбыліся на фестывальным тыдні, апагеі, так сказаць, нацыянальнай культуры. Далёка нам да Еўропы, ой, як далёка. *Коська.*

Крадзеж стагоддзя. Шукайце карціны ў прыватных калекцыях... Асабліва карціну з надпісам "Нічога няма" актуальна павесіць над халадзільнікам сярэднестатыстычнага беларуса. *Даніла.*

Старонка 21

Фота Наталлі ТУР.

## Доктар Міхалевіч прэзентаваў сваю кнігу пра рыбу і рыбалку на Віліі

старонка 2

## Дзяржкантроль знайшоў хібы падчас праверкі "Амазон-Каларыту"

старонка 3

## Маладзечанец аднавіў "Запарожац" 1967 года. Жонка раўнуе, калі дзяўчаты ездзяць фатаграфавацца

старонка 5



## Вайна суседзяў. Хто каму павінны саступіць месца ў агародзе?

старонка 20

# Пра Вяллю, рыбу і рыбалку

## Доктар Міхалевіч прэзентаваў сваю кнігу

ВІЛЕЙКА.

**Віляйчанін, работнік маладзечанскага цэнтра эпідэміялогіі, Міхаіл Міхалевіч у мінулы панядзелак прэзентаваў сваю кнігу "Пра Вяллю, рыбу і рыбалку".**


Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.
У зале Таццяна Захарыч, дырэктар цэнтра эстэтычнага выхавання, кіраўнік падарожжаў па Віліі Пётр Петух, шматразовая ўдзельніца экспедыцый Валянціна Лапко.

Прэзентацыя прайшла ў цэнтры эстэтычнага выхавання ў межах мерапрыемстваў, якія традыцыйна супадаюць са стартам штогодняй экспедыцыі "Шляхам Тышкевіча".

Сёлетняя беларуска-літоўская экспедыцыя стартавала 3 чэрвеня ад вёскі Камена. Тут бралі пачатак і экспедыцыя пад кіраўніцтвам графа Тышкевіча 160 гадоў таму, і першая сучасная беларуска-літоўская вандроўка 10 гадоў назад.

Па выніках вандроўкі Тышкевіча ўжо пасля яго смерці ў Дрэздэне выйшла грунтоўная навуковая праца на польскай мове "Вілія і яе берагі".

Як даробак экспедыцыі 2007 года стаў пяцітомнік літоўскага навукоўцы **Вікінтаса Вайткявічуса** "Нярыс. Экспедыцыя 2007 года" на літоўскай мове.

Беларусы да гэтага часу не мелі ніякага нацыянальнага выдання, прысвечанага "рацэ трох народаў".

Прагал вырашыў запоўніць віляйчанін Міхаіл Міхалевіч, патомны доктар, а ў вольны час рыбак і падарожнік, удзельнік амаль усіх экспедыцый па Вяллі пачынаючы ад 2007 года.

Натхнілі яго і прыклад Вайткявічуса, і пажаданні сваіх сяброў і паплечнікаў з Беларусі. У прыватнасці, аднаго з ініцыятараў аднаўлення тышкевічаўскіх традыцый **Віталь Кастэнка**.

Кніга, па прызнанні самога аўтара, пісаная на трох мовах. Па-беларуску (уступ), руску і на трасянцы (інтэрв'ю).

### Пра што кніга?

Пра рыбу. Але найбольш пра людзей, якія жывуць па берагах ракі. Нездарма першая частка амаль 200-старонкавага эсэ "Унікальнасць Віліі. Сырць і жэрах, ласось і мінога", прысвечаная рыбе, выглядае, пры ўсёй грунтоўнасці, як уступ да часткі "Успаміны жыхароў пра Вілію, рыбу, рыбалку".

Міхалевіч піша: "Падчас паходаў, а пасля сплаваў-экспедыцый мне з прычыны прыроднай цікаўнасці даводзілася гутарыць з многімі мясцовымі жыхарамі..."

У прыроднай цікаўнасці аўтара крыецца рухавік, які пастаянна ім рухае. Адсюль напоўненасць кнігі факталогіяй, людскімі назіраннямі людзей за галоўнай ракой нашага краю.

Аказваецца, можна напісаць цікавую кнігу, задаючы ў асноўным чатыры пытанні: "Якая ж самая смачная рыба?", "Якую найбольшую рыбу ты злавіў (або сарвалася ў цябе ці ты бачыў)?", "Якім рыштункам карыстаешся", "Як тут святкавалі Купалле"?


Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.
Міхаіл Міхалевіч дорыць сваю кнігу дырэктару Вілейскага краязнаўчага музея Надзеі Аўдзей.

### Што ўспамінаюць героі кнігі

Героі кнігі расказваюць нібыта пра рыбу, а аказваецца, пра сябе, сваё жыццё...

**Леакадзія Іванаўна Навойчык (Путрыч)**, 1924 г.н. Гэта інтэрв'ю Міхалевіч запісаў у 2013 годзе ў вёсцы Бакунькі ў вярхоўі Вяллі.

...Мой бацька зваўся Ясь. Па суседству жылі Рачыцкія, дзе зараз гэта хата. Жыла я тут і пры Польшы. Граніца праходзіла зусім блізка. Пераходзілі граніцу, каму трэба, найбольш у Камені. У нас, у Бакуньках, было вельмі строга. На граніцэ быў вялікі лес. І зараз відаць за ракой, дзе высокі лес, гэта ўжо былі бальшавікі. І рыбу можна было тут лавіць. Самая вялікая рыба ў рацэ – шчупакі. Былі і плоткі. Рака гэта – Вілля. Красіва тут і харашо, праўда? Вокны хат глядзяць на раку, бо там юг. Зімой замярзала – і канём пераязжалі. Дровы ж з лесу вазілі праз Віллю. Лавілі рыбу волакам. Лавілі і сакам. Калі хто адзін, то мог лавіць адзінокім сакам. Самая смачная – мянтуз і шчупак. І салілі рыбу, і жарылі. Усё было так, як і сейчас, яшчо, можа, і лучшэ. Зямля на гародзе – вось паглядзіце: адзін пясочак, але вот дзіва, расце ўсё. Няплоха расце, вось паглядзіце. А кажыцца, ні грама няма глебы. Даўней ваду з ракі пілі. І тэпер, калі вельмі захочацца, бывае, нап'ешся, бо вада з ракі надта ўкусная. Купаца я ўмею, не так каб сільна, але так, каб паплаваць па рацэ сваёй. Усе дзеці ў Бакуньках раней ўмелі плаваць. Даўней па рацэ лаўкі сплаўлялі. Лаўкамі ў нас звалі плыты...


Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.
Кнігі пра Вілію...

Мікола ГАЙДУК.

### Пачынальнікі

Тэма сучасных даследаванняў Вяллі будзе няпоўнай, калі не згадаць імёны віляйчан, якія сталі, мабыць, самымі асноўнымі каталізатарамі выбуху цікаўнасці да ракі і Павілля на мяжы 20-га і 21-га стагоддзяў.


Архіў "РГ".
Анатоль Рогач.


Архіў "РГ".
Віталь Кастэнка.

Гэта краязнаўца **Анатоль Рогач**, турыст і вандроўца **Віталь Кастэнка**, архітэктар і краязнаўца **Анатоль Капцюг**.

Анатоль Рогач, якому сёлета толькі што споўнілася б 70, каб не раптоўная смерць у 2010 годзе, праз пошукі ў архівах, публікацыі ў прэсе, прабуджаў інтарэс грамадскасці да ракі, гісторыі яе і людзей.

Вынікам яго шматгадовай працы сталася кніга ў суаўтарстве з **Сымонам Барысам** аб адным з самых вядомых прытокаў Вяллі – Нарачанкі "Нарачанка і яе берагі". Кніга пабачыла свет у 2013 годзе.

Віталь Кастэнка, жыццё якога трагічна абарвалася незадоўга да смерці Рогача, быў, як кажа старшы навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея **Вольга Коласава**, генератарам ідэй, маторам аднаўлення экспедыцыі па Вяллі.

Дзякуючы учэпістай памяці Анатоля Капцюга, бацькоўская хата якога стаіць на вілейскай вуліцы ў пары сотняў метраў ад пакручастага берага Вяллі, мы сёння ведаем, дзе ляжыць легендарны Камень Паца, які згадвае ў сваіх падарожных нататках Канстанцін Тышкевіч.

Адраджэнскі экспедыцыйны рух па Вяллі-Нярысу паралельна з'явіўся і набіраў моц у суседняй Літве. І дзесяць гадоў таму памкненні віляйчан і літоўцаў аб'ядналіся, вынікам іх стала юбілейная экспедыцыя 2007 года. Нязменным кіраўніком водных падарожжаў ад беларускага боку з'яўляецца **Міхаіл Петух**.

Аддзел інфармацыі.

# Дзяржкантроль знайшоў парушэнні ў “Амазон-Каларыце”

МАЛАДЗЕЧНА

**Камітэт дзяржкантролю правёў планавую праверку таварыства “Амазон-Каларыт” і знайшоў парушэнні.**



Фота з сайта кампаніі.

З-за парушэнняў у бухуліку таварыству даналічылі падаткаў на 1 500 рублёў.

Падчас праверкі знайшлі факты самавольнага будаўніцтва, парушэнні парадку вядзення бухгалтэрыі, прыродаахоўнага заканадаўства, распараджэння адходамі.

Падчас інвентарызацыі знайшлі два аб’екты будаўніцтва, якія не лічыліся ў бухгалтэрыі. Іх агульны кошт – 25 300 рублёў.

Таксама знайшлі недастачу матэрыяльных каштоўнасцяў на 1 800 рублёў.

Заўважылі таксама парушэнні ў тэхнічных нарматыўных прававых актах пры карыстанні вытворчымі будынкамі і продажы прадукцыі. Не было журнала тэхнічнай эксплуатацыі і карткі ўліку тэхнічнага стану.

Праверка таксама зафіксавала, што ваду з водаправода Маладзечнаводаканала спажывалі звыш нормы на тэхналагічныя патрэбы. Электраэнергію на тэхабслугоўванне і рамонт рухомага саставу выкарыстоўвалі без зацверджаных удзельных нормаў расходу.

Парушэнні пры вядзенні бухгалтэрыі прывялі да скажэння вынікаў фінансава-гаспадарчай дзейнасці таварыства, заніжэння прыбытку, які абкладаецца падаткамі. І ў выніку – недаплаты падатку на прыбытак.

За правапарушэнні да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнулі пяць службовых асоб на 1 000 рублёў, да дысцыплінарнай – семярых. Таварыства аштрафавалі на 7 200 рублёў. Даналічылі 1 500 рублёў на падаткі.

**Паводле паведамлення Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю.**

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| ПРАДУКТЫ | 31.05 | 7.06 |
| | Цана руб. | |
| Кілбаса “Мядовая”, 1 кг | 16,85 | 16,85 |
| Сасіскі “Малочныя”, 1 кг | 6,93 | 6,93 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 3,25 | 3,25 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 8,00 | 8,00 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 4,15 | 3,90 |
| Селядзец, 1 кг | 5,50 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 12,50 | 13,80 |
| Рыс, 0,9 кг | 1,45 | 1,45 |
| Грэчка, 0,8 кг | 2,25 | 2,25 |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 1,70 | 1,70 |
| Алей “Фермер”, 1 л | 2,10 | 2,10 |
| Маянэз, 200 г | 0,65 | 0,65 |
| Соус “Мінскі”, 0,5 л | 1,60 | 1,60 |
| Кава “Nescafe”, 100 г | 5,20 | 5,20 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 1,90 | 1,90 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 0,99 | 1,00 |
| Часнок, 1 кг | 5,95 | 5,90 |
| Капуста (маладая), 1 кг | 1,29 | 1,59 |
| Морква (маладая), 1 кг | 1,80 | 1,79 |
| Капуста пекінская, 1 кг | 2,50 | 1,69 |
| Лімоны (маладыя), 1 кг | 4,49 | 3,99 |
| Апельсіны, 1 кг | 2,69 | 3,50 |
| Мандарыны (маладыя), 1 кг | 3,95 | 3,95 |
| Радыска, 1 кг | 1,80 | (пучок)1,00 |
| Ківі, 1 кг | 4,35 | 4,65 |
| Буракі (маладыя), 1 кг | 1,95 | 1,95 |
| Памідоры, 1 кг | 2,95 | 3,00 |
| Агуркі, 1 кг | 1,69 | 1,49 |
| Перац, 1 кг | 5,95 | 6,20 |
| Кавун, 1 кг | - | 2,00 |
| Вінаград, 1 кг | 4,95 | 4,95 |
| Клубніцы, 1 кг | 8,00 | 5,50 |
| Чарэшні, 1 кг | 7,50 | 6,95 |
| Персікі, 1 кг | 4,95 | 4,95 |
| Нектарыны, 1 кг | 5,20 | 4,95 |
| Абрыкосы, 1 кг | 4,95 | 4,50 |
| Бананы, 1 кг | 2,69 | 2,69 |
| Яблыкі, 1 кг | 1,70 | 1,85 |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 3,49 | 3,69 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 1,20 | 1,20 |
| Масла, 1 кг | 11,00 | 11,00 |
| Тварог, 1 кг | 6,00 | 6,00 |
| Бульба (маладая), 1 кг | 1,80 | 1,80 |
| Сала, 1 кг | 11,00 | 11,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 2,50 | 2,50 |
| Мёд, 0,5 л | 6,50 | 6,50 |

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 1.06 | 8.06 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 1,8673 | 1,8672 |
| Еўра | 2,0881 | 2,1026 |
| Злоты, 10 | 5,0225 | 4,9971 |
| Расійскі рубель, 100 | 3,2936 | 3,2982 |
| Грыўня, 100 | 7,0966 | 7,1271 |
| Курсы ў “Банку БелВЭБ” | 31.05 | 7.06 |
| Еўра | 2.0600/2.0850 | 2.0900/2.1100 |
| Долар ЗША | 1.8550/1.8750 | 1.8550/1.8720 |








Фота PhotoCentra.ru.

## Згарэў касцёл 18 стагоддзя, у якім служыў паэт Казімір Сваяк

АСТРАВЕЦ

**Раніцай 6 чэрвеня ў вёсцы Клюшчаны згарэў стары драўляны касцёл святога Яхіма.**

– У шэсць гадзін раніцы чалавек, які жыве недалёка ад касцёла, пабачыў у вокнах касцёла агонь. Адразу выклікаў пажарных, яны хутка прыляцелі, але ўжо не было чаго ратаваць, – расказвае пчаляр **Алесь Марозік**, які жыве ў Клюшчанах.

Касцёл святога Яхіма пабудаваны ў 1726 годзе, быў зачынены ў 1948, але вернуты вернікам і адбудаваны ў 1990. У 1915-м невялікі прамежак часу тут служыў вядомы паэт, а таксама каталіцкі святар Казімір Сваяк.

– Нічога не атрымалася ўратаваць. Толькі выцягнулі кнігу 1887 года з архівамі, але нават яна напалову згарэла, – працягвае Марозік.

Па непацверджанай інфармацыі, на месца здарэння выязджаў старшыня Астравецкага райвыканкама **Ігар Шалудзін.**

Прэс-сакратар Гродзенскага абласнога ўпраўлення па надзвычайных сітуацыях **Наталля Жывалеўская** пацвердзіла "Нашай Ніве", што касцёл згарэў датла. Паводле МНС няма дакладнай інфармацыі, што стала прычынай узгарання.

Імша ў клюшчанскім касцёле праходзіла штотыдзень, у нядзелю, на яе прыязджаў ксёндз з суседніх Міхалішак.

**Зміцер ПАНКАВЕЦ, "Наша Ніва".**

● МІЛІЦЫЯ ШУКАЕ ВІДАВОЧЦАЎ

### У Радашкавічах кіроўца наехаў на пешахода

МАЛАДЗЕЧНА

Кіроўца "Таёты-Авенсіс" наехаў на пешахода ў Радашкавічах.

Здарэнне адбылося ў тры гадзіны ночы 16 красавіка. 31-гадовы вадзіцель рушыў па вуліцы Савецкай у накірунку плошчы Гастэлы. У гэты час дарогу пераходзіў 35-гадовы мужчына.

У выніку сутыкнення пешаход атрымаў цяжкія цялесныя пашкоджанні.

Просім відавочцаў здарэння звярнуцца ў аддзел ДАІ Маладзечанскага райвыканкама.

### Пешаход у Лебедзеве загінуў пад коламі машыны

МАЛАДЗЕЧНА

Каля 23 гадзін 6 мая аварыя адбылася ў Лебедзеве.

25-гадовы кіроўца ехаў на "Мерсэдэсе-Бэнц 230E" у накірунку Маладзечна. Калі ён праязджаў праз Лебедзева, то наехаў на пешахода.

Ад атрыманых пасля наезду траўмаў той загінуў на месцы здарэння.

Просім відавочцаў і сведкаў ДТЗ звярнуцца ў аддзел дзяржаўтаінспекцыі Маладзечанскага раёна.

Адрас: ***вуліца Т. Дудко, 1/18***. Тэлефоны: **(80176) 74-53-40, 74-53-43** ці **102.**

**Сяргей БАРТОШ, дзяржаўтаінспектар аддзела ДАІ Маладзечанскага РАУС.**



# Былога начальніка ПМС асудзілі за хабар і крадзяжы

МЯДЗЕЛ

**Прысуд вынес суд Мядзельскага раёна 2 чэрвеня па крымінальнай справе былога начальніка электрамантажных работ Мядзельскага прадпрыемства меліярацыйных сістэм.**


Фота kommersant.ru.

За хабар суд прысудзіў і да зняволення, і да канфіскацыі маёмасці.

У выніку яго пакаранне склала 2 гады 6 месяцаў зняволення і штраф на 200 базавых велічынь.

Ш. суд прызнаў вінаватым у завалоданні маёмасцю службовай асобай з выкарыстаннем сваіх службовых паўнамоцтваў. Яму прызначанае пакаранне ў выглядзе паўтара года пазбаўлення волі са штрафам у даход дзяржавы ў памеры 100 базавых велічынь (2 300 рублёў). Яго таксама пазбавілі права займаць пасады, звязаныя з выкананнем арганізацыйна-распарадчых і адміністрацыйна-гаспадарчых абавязкаў на два гады.

Ён жа прызнаны вінаватым у крадзяжы праз злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі, здзейсненым паўторна. Яму прызначанае пакаранне ў выглядзе двух гадоў пазбаўлення свабоды са штрафам 200 базавых велічынь (4 600). Таксама ён пазбаўлены права займаць пасады, звязаныя з выкананнем арганізацыйна-распарадчых і адміністрацыйна-гаспадарчых абавязкаў на чатыры гады.

Ш. прызнаны вінаватым у тым, што прыняў як службовая асоба для сябе матэрыяльныя каштоўнасці, якія даюцца выключна ў сувязі з займаемым ім службовым становішчам. Прымаў ён іх за спрыяльнае вырашэнне пытанняў, што ўваходзяць у яго кампетэнцыю, у інтарэсах таго, хто даваў хабар, для якога-небудзь дзеяння, якое мог выканаць з выкарыстаннем службовых паўнамоцтваў. За гэта прызначанае пакаранне – 2 гады 6 месяцаў пазбаўлення волі з канфіскацыяй усёй маёмасці і пазбаўленнем права займаць пасады, звязаныя з выкананнем арганізацыйна-распарадчых і адміністрацыйна-гаспадарчых абавязкаў на чатыры гады.

Па сукупнасці злачынстваў, выкарыстоўваючы прынцып паглынання менш строгага пакарання больш строгім, канчаткова Ш. прызначаныя 2 гады 6 месяцаў пазбаўлення свабоды са штрафам ў памеры 200 базавых велічынь, канфіскацыяй усёй маёмасці, пазбаўленнем права займаць пасады, звязаныя з выкананнем адміністрацыйна-гаспадарчых абавязкаў на чатыры гады. Пакаранне ён будзе адбываць у папраўчай калоніі ва ўмовах узмоцненага рэжыму.

Таксама з Ш. спагналі на карысць дзяржавы беспадстаўнае ўзбагачэнне ў суме 1 810 рублёў, а на карысць Мядзельскага ПМС – 2 359 рублёў на пакрыццё шкоды.

Прысуд у законную сілу не ўступіў і можа быць абскарджаны і апратэставаны ва ўстаноўленым законам парадку.

**Паводле паведамлення Мінскага абласнога суда.**

### На Вілейшчыне ў аварыі пацярпелі двое

ВІЛЕЙКА

Здарылася гэта 3 чэрвеня. Бліжэй да поўдня 46-гадовая жыхарка Мінска ехала на аўтамабілі "Рэно-Твінга" па дарозе Мінск-Калачы-Мядзел у бок Мядзела.

На 90-м кіламетры дарогі, у Вілейскім раёне, жанчына не справілася з кіраваннем. Машына з'ехала на правую па ходзе руху абочыну і далей у кювет, дзе перакулілася, паведамляе ДАІ Мінскай вобласці.

Кіроўца атрымала траўмы. Траўмаваны і 53-гадовы пасажыр. Апошні шпіталізаваны ў Вілейскую ЦРБ. Абодва былі прышпіленыя рамянямі бяспекі.

ДАІ Мінскай вобласці заклікае кіроўцаў быць уважлівымі падчас кіравання аўтамабілем, захоўваць хуткасныя рэжымы і прышпільвацца рамянямі бяспекі.

### На Вілейскім вадасховішчы вецер перакуліў лодку

ВІЛЕЙКА

У апошнія дні на вуліцы моцны вецер. Таму катанне на лодцы можа скончыцца сумна.

31 мая ўвечары выратавальнікам паведамілі пра тое, што ў вадасховішчы знаходзіцца мужчына.

Як расказалі ў вілейскай выратавальнай станцыі, мужчына з Маладзечна рыбачыў з лодкі на вадасховішчы ў Рабуні. Пачаўся моцны вецер, падняліся хвалі, лодка перакулілася. Мужчына быў прыкладна ў паўкіламетры ад берага.

Выратавальнікі, якія прыехалі на месца, дасталі мужчыну з вады. У халодным вадасховішчы маладзечанец прабыў каля 30 хвілін. З пераахаладжэннем яго адвезлі ў бальніцу.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

### Мама адышла на 10 хвілін па сок, а двухгадовы хлопчык патануў у вадаёме

Нічога не прадракала бяды ў вёсцы Рубеж Бешанковіцкага раёна, дзе 4 чэрвеня здарылася трагедыя. У нядзелю каля 17 гадзін двухгадовы хлопчык быў на прагулцы з мамай каля прыватнага дома.

Калі мама пайшла ў дом па сок для дзіцяці, хлопчык застаўся без нагляду. Іншых дарослых у гэты час дома не было. Праз 10 хвілін мама выйшла з дома, але хлопчыка ў двары не знайшла і стала яго шукаць. Да пошукаў дзіцяці падключылася бабуля, якая ў той час прыйшла ад суседкі.

Дарослыя зразумелі, што дзіця выйшла праз брамку за тэрыторыю двара. Унука знайшла бабуля ў сажалцы, размешчанай на прыдамавой тэрыторыі. Дактары "хуткай дапамогі" канстатавалі смерць хлопчыка.

Бешанковіцкі раённы аддзел Следчага камітэта па гэтым факце праводзіць праверку.

Следчыя ўстанавілі, што сям'я характарызуецца станоўча, у сацыяльна небяспечным становішчы не знаходзіцца.

Падчас агляду следчыя зафіксавалі, што прыдамавая тэрыторыя абгароджаная плотам, брамка зачыняецца, а сажалка ў свабодным доступе.

Следчыя заклікаюць бацькоў пастаянна сачыць за дзецьмі, асабліва паблізу вадаёмаў. Дзеці заўсёды павінны быць пад кантролем дарослых, пастаянна знаходзіцца ў іх полі зроку.

**Аддзел інфармацыі.**

# Маладзечанец аднавіў "Запарожац" 1967 года:

## Жонка не раўнавала да машыны, цяпер раўнуе, што нейкія дзеўкі прыязджаюць фоткацца

МАЛАДЗЕЧНА

**Юры Мазінскі ў 2010 годзе купіў старэнькі, развалены "Запарожац". І вось ужо сем гадоў рэстаўруе яго.**

– Ніколі не быў ні аўтамабілістам, ні калекцыянерам рэтра, – расказвае Юры, – проста аднойчы ўбачыў у суседа ў двары гэту машынку і стаў прасіць: прадай, прадай.

Сусед на здзелку доўга не пагаджаўся, але якраз тым летам былі моцная навальніца і вецер, які паваліў дрэва акурат побач з "Запарожцам". Тады, верагодна, сусед вырашыў, што гэта знак, і пагадзіўся прадаць гэты рарытэт.

– Я купіў свайго равесніка, ён таксама 67 года нараджэння, – жартуе Юрый. – Я на той час заплаціў за "Запарожац" каля двух мільёнаў, а тады гэта было 200 $.

**На сайтах продажу аўтамабіляў такія адрэстаўраваныя "Запарожцы" каштуюць ад 7 да 10 тысяч долараў.**

Па-першае, машыну трэба было паставіць на ўлік. Як аказалася, Юры стаў яе чацвертым гаспадаром.




На рэстаўрацыю "Запарожца" у Юрыя пайшло амаль 7 гадоў.

Машыну купілі ў Віцебскай вобласці, потым прадалі ў Мядзел.

– Там мой сусед узяў яе па генеральнай даверанасці. А калі машыну прадаў мне, аказалася, шўто даверанасць пратэрмінаваная, а гаспадар машыны памёр.

Але пасля трох месяцаў запытаў у ДАІ, праверак, пераафармленняў, Юры нарэшце стаў законным уладальнікам машыны.

– Па праўдзе, жонка мая стала ўладальніцай машыны. І дзякуй ёй вялікі за цярпенне, пакуль я займаўся аднаўленнем машыны. Бо часу і грошай гэта вымагала шмат.

### Прасцей купіць крыло ад самалёта, чым запчастку

Машына першапачаткова была ў вельмі дрэнным стане.

– Калі ў машыны адмовіў матор, сусед яе проста кінуў пад плот. Думаў рамантаваць, але рукі не даходзілі.

У машыне давялося мяняць рухавік, варыць парогі, не было ні пярэдняй, ні задняй падвескі, не было колаў, не было даху, салон быў брудны і развалены.

– Некаторыя запчасткі да машыны я чакаў і шукаў па паўгода. Перателефанаваў усім, хто займаўся рэстаўрацыяй аўто, прасіў, можа, ёсць якая запчастка, каб падзяліліся.

Даўжэй за іншыя дэталі Юры шукаў абадок ад фары і брылёк ад сонца.

– Праз інтэрнэт купляў, напрыклад, значок "Запарожац", які мацуецца спераду машыны, каштаваў 20 долараў.

Абіўку ў салон Юры замаўляў у Маскве.

– Доўга шукаў, каб салон быў арыгінальны. Знайшоў фірму ў Маскве, якая робіць новыя рэчы, але пад даўніну. У іх можна было замовіць салон цалкам, ён каштаваў бы 1000 долараў, але я пашкадаваў грошай, заказаў толькі абіўку, астатняе рабіў сам.

### Людзі сігналяць і паказваюць "клас"

Сёлета, нарэшце, машына была завершаная, і Юры стаў выязджаць на ёй у горад.

– Жонка сказала, што не сядзе ў яе ні за што. Цяпер, здаецца, рашэнне сваё змяніла.

Кіроўцы на дарозе "Запарожац" Юрыя сустракаюць з усмешкай.

– Адзін хлопец дык да пояса высунуўся з машыны і абедзвюма рукамі паказаў "клас".

Прабег машыны – 42 тысячы кіламетраў.

– Але гэта ўмоўна, бо рухавік мяняўся. Я ставіў прыблізна такі ж з "Запарожца"-донара.

У машыне 28 конскіх сіл. Важыць машына 610 кілаграмаў. Аб'ём бензабака – 30 літраў.

– Праблема з бензінам ёсць. Машына ж павінна ездзіць на 76 бензіне, а цяпер толькі 92. Я хачу паспрабаваць зменшыць актанавы лік, але пакуль не эксперыментаваў.

У пашпарце сказана, што яна можа развіваць хуткасць да 90 кіламетраў у гадзіну. Але тады і расход паліва будзе прыкладна 10 літраў на 100 кіламетраў.

Цікава напісана ў пашпарце машыны: "Контрольный расход топлива на 100 километров пробега для исправного, прошедшего обкатку автомобиля, двигающегося с полной нагрузкой при постоянной скорости 35-40 км/ч на 4 передаче на горизонтальном участке автомобильной дороги с ровным покрытием, 5,5 литра".

Юры рэстаўрацыю машыны завяршыў, але на падыходзе новы агрэгат.

– Сёлета думаю задацца мэтай аднавіць бацькоўскі матацыкл. Я на ім ездзіў, калі мне было 16 гадоў. Так сказаць, буду вяртаць да жыцця сябра дзяцінства.



Наталля ТУР
natali.turenok
@gmail.com
8-044-566-26-99



# У Маладзечне новы начальнік Упраўлення працы

МАЛАДЗЕЧНА

**Алена Барада ўзначальвае ўпраўленне ад 1 чэрвеня.**

Пра гэта паведаміла начальнік арганізацыйна-кадравай работы райвыканкама **Таццяна Шафаловіч**.

Алена Барада да гэтага працавала начальнікам аддзела арганізацыі новых рабочых месцаў і грамадскіх работ службы занятасці.

Папярэдні начальнік **Вольга Майстрэнка** напісала заяву з просьбай перавесці на іншую пасаду. Яна застаецца працаваць ва ўпраўленні.

Пра новага кіраўніка Таццяна Шафаловіч адгукаецца як пра дасведчанага спецыяліста, які адпрацаваў у галіне больш за 20 год.

**Аддзел інфармацыі.**




# Куплю Прадам Зраблю

## Дзе падаць аб'яву

**МАЛАДЗЕЧНА** Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. (80176) **537804, 8 (029) 6768420.**
**АСТРАВЕЦ** вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. (801591) **21140.**
**АШМЯНЫ** вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. (801593) **22211.**
**ВАЛОЖЫН** вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. (801772) **55542, 55237.**
**ВІЛЕЙКА** вул. Партызанская, 44, магазін "Парус". Тэл. (801771) **20083, 20103**.
**ВІЛЕЙКА** вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. (801771) **55233, 55539.**
**СМАРГОНЬ** вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. (801592) **33077.**
**МЯДЗЕЛ** вул. 17 Верасня, 2. Тэл. (801797) **55266, 55765.**

* *Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў Інтэрнэце на сайце* **Rh.by**

| Тэлефонныя коды | гарадоў рэгіёну: |
|---|---|
| Астравец | -01591, |
| Ашмяны | -01593, |
| Валожын | -01772, |
| Вілейка | -01771, |
| Маладзечна | -0176, |
| Мядзел | -01797, |
| Смаргонь | -01592. |



# ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• ВАЗ-2101, 1972 г.в., у добрым стане, бэжавы колер. Т. Вэлком (8-029) 9862628, МТС (8-033) 6053526.

• ВАЗ-21063, 1989 г.в., бэжавы колер. Т. (8-029) 1798400.*

• Гольф-7, 2014 г., Опель-Зафіра, 2014 г., торг. Т. (8-029) 3063523.*

• Джэта-2, 1986 г.в., 1,6Д. Чырвоная, у добрым стане, на транзітных нумарах. Т. (8-029) 1337681, (8-029) 5662873.

• Форд-Сіера, 1990 г.в., рух. DOHC, 2,0 бензін. Вілейка. Т. МТС (8-033) 6616578.

• **АЎТАШКЛО. ПРОДАЖ, УСТАНОЎКА. ЯКАСНА, ПРАФЕСІЙНА. ГАРАНТЫЯ.** Наяўны, безнаяўны разлік. ЧСУП "АртАлексСэрвіс" УНП 690639270. Т. (8-029) 7766637, (8-044) 7766637. *

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 6170681.***

• Аўтамабіль, мікрааўтобус у любым стане. Т. (8-029) 3883300.*

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6412706.*

• Аўто ў любым стане. Дорага. Т. МТС (8-029) 7076969.*

• Аўто, можна з праблемамі. Прыеду сам. Т. МТС (8-029) 7773083.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

### ПАСЛУГІ

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАРА**, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Міні-экскаватар, міні-пагрузчык, траншэекапальнік, вібрапліта 500 кг, самазвал 20 т. ІП Карповіч В.У. УНП 692013268. Т. (8-029) 9666645.*

• Паслугі міні-экскаватара. Усе віды земляных работ (газ, вада, фундаменты). ІП Жак А.А. УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*

• Паслугі міні-экскаватара. Усе віды земляных работ. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м), экскаватара-пагрузчыка Фіят-Хітачы і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішчэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3133535.*



# НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. В. Гасцінец, 88. Т. (8-029) 5634407.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-033) 3209338.

• 2-пакаёвую кватэру ў Вілейцы, еўрарамонт, магчымы абмен на Мінск з даплатай. Т. (8-029) 2749893.*

• 2-пакаёвая прыватызаваная кватэра плошчай 44,3 кв.м, 2 паверх, у г.п. Гарадзея (цукровы завод Нясвіжскага раёна Мінскай вобласці) альбо памяняю на кватэру ў Маладзечне. Т. (8-0176) 54-13-55, (8-033) 3423075, (8-029) 9381700.*

• 3-пакаёвая кватэра з усімі выгодамі, з рамонтам, лоджыя 6 м. Нядорага. Вілейка, вул. Кастрычніцкая, д. 54. Т. (8-033) 3839112.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, 108 кв.м. Т. (8-029) 6795426.*

• Гараж у Вілейцы, яма, падвал, ГБК-2. Т. (8-029) 2558669.*

• Гараж у ПГБК №5 у Вілейцы, бетонная падлога з рамонтнай ямай, уцепленая столь, вентыляцыя, ацяпленне, 5000 руб., торг. Т. (8-029) 7781279, (8-029) 3695646.

• Дом 100 кв. м, газ, водазабеспячэнне, каналізацыя, цяпліца, альтанка, 11 сотак зямлі. Т. Вэлком (8-044) 7155621, (8-029) 6499848.*

• Дом драўляны ў добрым стане, нарачанскі напрамак, 8 км ад Вілейкі, 16 сотак, калодзеж, склеп. Т. (8-044) 7587148.*

• Дом жылы ў Маладзечне, цэнтр, газ, вадаправод. Т. Вэлком (8-029) 6691789.*

• Дом з усімі выгодамі ў Вілейцы, на ўчастку ёсць лазня. Т. (8-033) 3209338.

• Дом у в. Елажычы, у добрым стане, на беразе ракі Нарач, побач лес. Т. МТС (8-029) 2635616, Vel (8-029) 6258476.*





• Дом у в. Куранец, участак 20 сотак альбо абмен. Т. МТС (8-029) 7603076.*

• Дом у в. Маркава Маладзечанскага раёна, 24 соткі агарода, гаспадарчыя пабудовы, калодзеж, газаправод побач. Цана дагаворная. Т. (8-0176) 755866.*

• Дом у в.Маркуны Астравецкага раёна на беразе р. Вілія. Т. (8-044) 4781305.*

• Дом у в.Порса, участак 30 сотак. Т. (8-029) 1214671.*

• Дом у Вілейцы 70 кв.м, бервяно, участак 15 сотак, сад, калодзеж, цана 28 тыс. бел. руб. Т. (8-01771) 21293, (8-01771) 54399.*

• Участак 8 сотак на Браслаўскіх азёрах, 100 метраў ад возера Струста. Т. 98-029) 7040724, (8-029) 6151143.*

• Дачны ўчастак 9 сотак у 3,5 км ад г. Маладзечна, прыватызаваны, у СТ "Міліяратар" (в. Забалоцце). Т. (8-0176) 541355, (8-033) 3423075, (8-029) 9381700.*

### ЗДАМ

• Пакой для хлопца ў Маладзечне. Т. МТС (8-029) 5719435.*



# ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-033) 3400865. Васкабовіч А.А.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

• **ФАТОГРАФ. ВЯСЕЛЛІ. ПАМЯТНЫЯ ДНІ. СЯМЕЙНАЕ ФОТА. LOVE STORY. ПАРТРЭТЫ. ЛІЧБАВАЯ І СТУЖКАВАЯ ФАТАГРАФІЯ. Юркоў У.А. Т. (8-044) 5745873.***

### ПАСАЖЫРАПЕРАВОЗКІ

• Здам у арэнду аўтобус ПАЗ 25 + 15 месцаў. Т. (8-029) 6689034.

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Мерсэдэс-508, тэнт, да 3 тон + 5 пасажырскіх месцаў, па горадзе і РБ. Кватэрныя пераезды. Вываз смецця. Грузчыкі. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*

• Грузаперавозкі. Бус 1,5 тн. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*

• Грузаперавозкі. Фура-борт, 20 тон. Т. (8-029) 1921299. ПУП "Дойлід-С" УНП 600077312.*

• МБ-Спрынтар, суцэльнаметалічны, 4,20х1,75х1,65 м. ІП Навойчык А.У. УНП 692015166. Т. (8-029) 1684717, (8-029) 7684717.*

• Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Пераезды. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Спілуем дрэвы любой складанасці. ІП Шабуня С.А. УНП 691885349. Т. МТС (8-029) 8548742, Вэлком (8-044) 4784873.*

• Агароджы з прафнасцілу, штыкетніка, бесера. Вароты адкатныя, якія расхінаюцца. Танна. ІП Мельнікаў П.Е. УНП 691518576. Т. (8-044) 5352329, (8-029) 7623561.*

• Аграсядзіба, **ЛАЗНЯ.** vslobode.by ІП Камінскі А.Н. УНП 192737618. Т. (8-029) 6130457.*

• **АДДЗЕЛКА ДАМОЎ САЙДЫНГАМ**. ІП Бяліцкі А.В. УНП 690688577. Т. (8-029) 7085907, (8-029) 1232842.*

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. ІП Суббот П.І. УНП 692010733. Т.(8-029) 7737451, (8-029) 1285233.*

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. Хутка. Нядорага. Акцыі. Скідкі. ІП Янцэвіч А.Г. УНП 590945450 Т. МТС (8-029) 7860317, Вэлком (8-029) 1287878.*

• Бурэнне свідравін (скважын) на ваду. Нізкія цэны. ІП Мацін А.М. УНП 691410712 Т. (8-029) 9447224, (8-033) 6911759.*

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*



• Добраўпарадкаванне пахаванняў, устаноўка помнікаў. ІП Нільва А.С. УНП 691880467. Т. (8-029) 3469417.*

• Кладка, дах, фундамент, аддзелка. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826. Т. (8-0176) 734961, (8-029) 5024571.*

• Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Устаноўка агароджаў. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*

• Мантаж-дэмантаж дахаў, уцяпленне дамоў, афарбоўка, падшыва, абшыўка франтонаў сайдынгам і інш. ІП Бесараб А.У. УНП 691892579. Т. (8-029) 2754603, (8-044) 4654416.*

• Рамонт металічных дзвярэй. Змена знешняга віду. Рамонт, замена замкоў і фурнітуры. Уцяпленне. ІП Новікаў А.А. УНП 691899716 Т. (8-029) 6548129.*

• Рамонт пральных машын LG, INDESIT, ARISTON, ARDO, "АТЛАНТ", BOCSH, ZANUSSI, CANDY, ELEKTROLUX і інш. ПУП "Планета інтэлекту" УНП 191763743. Т. (8-033) 6228190. Уладзімір.*

• **РАМОНТ ТЭЛЕВІЗАРАЎ ДОМА.** Гарантыя. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, Лайф (8-025) 9262376, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд на дом. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• Рамонт халадзільнікаў, маразільнікаў. ІП Шапавал Г.В. УНП 690688393. Т. у Маладзечне 733177, (8-029) 3395974.*

• Электрык. Замена праводкі. ІП Ганецкі С.Р. УНП 691503598. Т. (8-029) 8543788, (8-029) 9780431.*

# РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Бытавая тэхніка**

• Маразільнік "Атлант", 6-камерны, б/у, танна. Т. (8-029) 6151143.

**Будматэрыялы, сантэхніка**

• **БЛОКІ Г/С (ВЫТВОРЧАСЦІ СМАРГОНІ, ЗАБУДОВЫ), ЦЭГЛА. ДАСТАЎКА**. Прыватнае прадпрыемства "Бізнес-Дэталь" УНП 691516305. Т. (8-029) 6664889.*

• **ВАГОНКА** (сасна, вольха), **ДОШКА ПАДЛОГІ, ЭЛЕМЕНТЫ ЛЕСВІЦ** і інш. у Маладзечне, вул. Гарадоцкая, 102. ПП "Маркціна Білд" УНП 690627804. Т. (8-029) 1891477, (8-029) 2518322.*

• Вагонка, вольха, сасна. Дошка падлогі, блок-хаўс, імітацыя бруса, палок. ІП Жукоўскі З.А. УНП 692011094. Т. (8-029) 5090095, (8-029) 3811905.*

• Цэгла віцебская пячная. Т. (8-044) 7557072.*

**Сельгас-, будаўнічая тэхніка, абсталяванне**

• Бульбасаджалка. Т. (8-029) 8462052.

• Трактар Т-40, навяснае, прычэп. Т. Вэлком (8-029) 1991382.*

• Трактар, 2017 г.в., рухавік 16 к.с., бензін, добры стан, 1900 руб. Т. (8-029) 5039360.*

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



• **АБАНЕНЦКІЯ КАРТЫ "ТРЫКАЛОР" – СКІДКІ! АКЦЫІ! АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ – ВЯЛІКІ ВЫБАР, НІЗКІЯ ЦЭНЫ**. ІП Бойка Т.Л. УНП 691290609. Т. (8-044) 7170634, (8-033) 3352045.*

• Абслугоўванне, наладжванне, рамонт спадарожнікавых антэн. ІП Буслаўскі А.М. УНП 691898750. Т. (8-033) 3494488.*

• **АНТЭНЫ СПАДАРОЖНІКАВЫЯ ТРЫКАЛОР, НТВ+, ЗАМЕНА СТАРЫХ ПРЫЁМНІКАЎ НА НОВЫЯ.** ГПУП "Ліцэраль". УНП 690621436. Т. (8-0176) 738353, (8-029) 3900408, (8-029) 7728320.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Вуллі новыя. Танна. Т. (8-0176) 532543, Вэлком (8-029) 9950326.*

• Кабылка маладая. Т. МТС (8-029) 725280.*

• Карова, 6 гадоў, в. Заброддзе Даўгінаўскага с/с Вілейскага раёна. Т. (8-029) 5034539.*

• Куры розных парод: брамы, арпінгтон, фавероль і іншыя. Фазаны залатыя і сярэбраныя. Т. (8-029) 5809602.

**Іншае**

• Электрамаслабойка новая, расійскай вытворчасці, 5 літраў. Т. (8-033) 3423075, (8-029) 9381700, (8-0176) 541355.*

# Дзве выставы: пра Купалу і на Купалы

МАЛАДЗЕЧНА

**Мінулыя выхадныя запомніліся не столькі фестывалем, колькі тым, што ў Маладзечне амаль адначасова адкрыліся дзве, абсалютна непадобныя адна на адну, выставы.**

Першая, "Родныя вобразы", прысвечаная Янку Купалу і Якубу Коласу, афіцыйна адкрылася ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі. І другая, якая нікім не была санкцыянаваная, нікім (акрамя "Рэгіянальнай газеты") не была прааналізаваная, адкрылася на сметніцы па вуліцы Янкі Купалы.

На першай выставе прысутнічалі афіцыйныя асобы, начальнік аддзела ідэалогіі райвыканкама, прадстаўнікі музеяў Коласа і Купалы.

Дзеля справядлівасці варта сказаць, што мастацкія работы, прадстаўленыя ў музеі, былі вартыя ўвагі.

А вечарам таго ж дня на другім канцы горада эпатажны мастак **Bazinato** адкрываў сваю выставу.

І адкрываў ён яе на сметніцы, што месціцца паблізу яго дома.

Тут сабралася нешматлікая інтэлігенцыя, якой было цікава, што ў Маладзечне адбываецца нейкая "дзвіжуха".

– Усё наша жыццё напоўненае бытавымі праблемамі, – патлумачыць падчас адкрыцця арганізатар праекта маладзечанец Bazinato. – І вельмі часта чалавеку проста не хапае часу, каб дакрануцца да мастацтва. Галерэя на сметніцы – праект, які дае магчымасць людзям пазнаёміцца з сучасным мастацтвам у паўсядзённым жыцці. Чалавек выкідае смецце штодзень, каб вызваліць сябе ад непатрэбных рэчаў, мінулага. Выкінуўшы, у яго застаецца пустата, якую можа запоўніць творчасць.

На смеццевай галерэі былі паказаныя работы дзесяці сучасных беларускіх мастакоў. Сярод якіх **Андрэй Анро**, **Сяргей Шабохін**, **Жанна Гладко**, **Даша Зайчанка**, **Міхаіл Гулін**, **Аляксей Лунёў**, **Воля Сасноўская**, **Алеся Галота**, **Bazinato**, **Юра Шуст**.

Але **Bazinato** гэта не засмуціла:

– Я мог падумаць, што так і будзе. Гэта ж здорава, што людзі так узаемадзейнічаюць з мастацтвам. Значыць, яны палічылі, што гэтым карцінам месца ў кватэрах, а не на сметніцы. У любым выпадку праект працягнецца.

– Я думаю, што наступным этапам будзе галерэя дзіцячых малюнкаў. Спадзяюся, што яны правісяць даўжэй.

А яшчэ **Bazinato** спадзяецца, што маладзечанскія мастакі пазітыўна аднясуцца да таго, што ў горадзе адкрылася выстава на сметніцы.

– Многія мастакі малююць і захоўваюць свае работы ў стале, а значыць, гледачы проста не маюць магчымасць дакрануцца да іх творчасці, – разважае мастак. – Лепш знаёміць людзей з творчасцю на сметніцы, чым увогуле ніяк. У любога мастацтва павінна быць сваё месца, храм. Мастацтва – самая смачная ежа для мозга. Таму важна даваць людзям сілкавацца ёй і заахвочваць саміх ствараць.

Пазітыўна ацаніў ініцыятыву маладых мастакоў і мастак **Мікола Аўчыннікаў**:

– Гэта выдатна! Такія мерапрыемствы прымушаюць думаць, разважаць. Мастакі паказваюць свае работы, тым самым і гледачы перастаюць драмаць. Вельмі шкада, што выставу хутка разабралі. Я бачыў работы ў інтэрнэце, і ведаю што, многія з іх малявалі шмат часу, у іх закладзеная глыбокая думка. Дай бог, каб моладзі хапіла энтузіязму працягваць гэту справу.

**Наталля ТУР,**
**Галіна СУДНІКОВІЧ.**



Фота Наталлі ТУР.

Ля карціны, якую намаляваў сам Bazinato.



Фота Наталлі ТУР.

Той, хто паспеў, зрабіў прыгожыя фота каля карцін.



Фота Наталлі ТУР.

На выставе былі паказаныя 10 работ, якія ўжо вечарам мясцовыя жыхары расцягнулі па дамах.

## Толькі факты

Кошт выставы Bazinato склаў каля 500$.

У галерэі былі прадстаўленыя рэпрадукцыі работ. Арыгіналы некаторых з іх знаходзяцца ў прыватных калекцыях па ўсім свеце.

Bazinato не будзе маляваць на сметніцы графіці, бо каштаваць гэта будзе 7000$.

У планах мастака стварыць 3Д сайт галерэі, якая праіснавала адзін дзень.

**Чаму былі? Ды таму, што ўжо праз некалькі гадзін ад галерэі засталіся толькі цвікі.**

## Камент-эксперт

**Не трымайце ў сабе: напішыце, што думаеце**

**Пакідайце каментары пад артыкуламі на інтэрнэт-старонцы Rh.by ці ў суполках газеты ў сацсетках**

А чаго ты чакаў? Сметніца для смецця альбо непатрэбных рэчаў. Якая галерэя. ***Дзмітры.***

Я думаю, можа, нехта і не ў курсе мог быць. Часта людзі вывешваюць непатрэбныя рэчы. ***Сяргей.***

Як аператыўненька, а я тормаз заўтра хацела падысці паглядзець))) і смецце заадно вынесці. ***Алена.***

Чаго і трэба было чакаць))) Адразу было зразумела, што не прыжывуцца падобныя новаўвядзенні, ды яшчэ ў такім інтымным месцы))))) Можа, іх проста нехта аформіў у кантэйнер?)))) Каму яны патрэбныя... Але факт дэбілізму няспрэчны. Не падабаецца – не глядзі... ***Валеры.***

Як звычайна, нічога новага, толькі б сапсаваць. А таму, хто павесіў карціны на сметніцы, рэспект за ідэю, у нас няшмат крэатыўных людзей, на жаль. ***Максім.***

Як сумна чытаць. Фестываль адстой, крэатыўная ідэя таксама абхаяная. Звярнуся да хаяльшчыкаў: людзі, перш чым нешта хаяць, зрабіце нешта карыснае ў сваім нікчэмным жыцці, і каб пра гэта ведалі не толькі вы самі. Вы, як правіла, яшчэ вельмі маладыя і, як правіла, разумова неразвітыя ў свае 14-15-18 гадоў. Гэта вельмі сумна. За вас і за гэту краіну. Адным словам, хавайся ў бульбу. ***Марыя.***

Гэта вы сядзіце ў інтэрнэце і ведаеце, што і дзе. А людзі за 50 (адзінкі маюць старонкі "Укантакце" і "Аднакласніках") не ведаюць ні пра якія выставы. Прыйшла бабуля, бачыць, карціны развесілі, каб выкінуць, можа, некаму спатрэбяцца, пашкадавала прыгажосць пакідаць на сметніцы і ад чыстаты сваёй сардэчнай забрала. А не таму, што не ведала, што гэта каштуе 500$ і трэба браць)) Ідэя добрая 50 на 50. Не думаю, што карціны, развешаныя на стэндах у горадзе, так хутка б скралі. Я люблю жывапіс, аднак, прабачце, ідэя развесіць карціны на сметніцы так сабе. ***Леначка.***

Што ж хацеў сказаць гэтай інсталяцыяй мастак? Можа, ён хацеў выявіць слой соцыуму, які прынята называць "памыйныя каты"? Спадарства, віншую, вы – памыйныя каты. ***Коська.***

Жыхарам нашага раёна (асабліва моладзі) увогуле нічога не трэба: лаўкі паламаюць, пад'езды і ліфты размалююць((( А так прыкольна было, нават не так агідна на сметніцу ісці))) Хлопцы так стараліся цэлы дзень, а наша моладзь усё за вечар расцягнула! ***Ларыса.***

ШАХМАТЫ З ВІТАЛЕМ КАЧАТКОВЫМ

# Шах і мат. Як выйграць у шахматах

**Дык што ж такое шах і што такое мат? Мат – гэта такі шах, толькі мат... (жартую).**

У шахматах напад варожай фігуры на караля называюць шахам. Калі ад шаха кароль не можа нікуды сысці і яго не можа абараніць ніякая свая фігура, то гэта ўжо мат. Гэта значыць, любы мат – гэта шах, а вось шах – гэта далёка не мат.

Мат №1



Гэта ўжо вырашаная задача з кніжкі "Мат у адзін ход", але нумар дыяграмы узгадваць не будзем. Разбяром па парадку. Тут стаіць мат беламу каралю. Звярніце ўвагу: ён адзін-адзінокі.

Пазбавіўся усяго свайго войска, і яго "бяруць у палон", а на шахматнай мове – матуюць чорныя фігуры.

Прычым усе тры чорныя – кароль і дзве ладдзі – у гэтым матаванні белага караля прымаюць удзел. І кожная чорная фігура выконвае ў гэтым "пакаранні белага караля" свой непасрэдны ўдзел.

Мы ўжо ведаем, што кароль ходзіць на адну клетку вакол сябе ва ўсе бакі. У белага караля на G4 ёсць тэарэтычная магчымасць пайсці на 8 палёў: f3, f4, f5, g3, g5, h3, h4, h5. І ўсе гэтыя палі кантралююць чорныя фігуры, а поле g4, на якім стаіць белы кароль, – атакаванае.

Цяпер па парадку. Чорная ладдзя з h8 кантралюе ўсю вертыкаль H і ўсе палі на ёй: h7, h6, h5, h4, h3, h2, h1. Іншая чорная ладдзя, якая стаіць на G7 кантралюе вертыкаль G, і непасрэдна шахуе і матуе караля на полі g4.

Чорны кароль, які стаіць на E4, карыстаючыся шахматным правілам "кароль з каралём не сустракаецца", адбірае ў чорнага манарха палі для адступлення – f3, f4, f5. Усё – мат на дошцы!

А цяпер самі паглядзіце на "гатовыя маты" і дашліце нумары задач з кнігі "Мат у адзін ход", у якіх гэтыя маты выкарыстоўваюцца, на адрас **regionnews@rh.by** да 15 чэрвеня.

Мат №2



Мат №3



Мат №4



Мат №5



На ўсіх дыяграмах ужо стаіць мат.

Заданне :

1. Дашліце нумары задач, у якіх выкарыстаныя гэтыя прыклады шахматных матаў.

2. З якой стадыі шахматнай партыі ўсе гэтыя прыклады? Якія стадыі шахматнай партыі вы ўжо ведаеце? (З імі мы пазнаёміліся ў папярэднім выпуску).

**Віталь КАЧАТКОЎ,**
**майстар спорту па шахматах Беларусі.**

**Адказ на задачу з №22 – Ф g4#.**

## "Мядзведзі" прайграюць

СМАРГОНЬ

У пятым туры чэмпіянату Гродзенскай вобласці па футболе 4 чэрвеня ФК "Мядзведзі" са Смаргоні ў Шчучыне прайграў мясцовай камандзе 1:3.

У чэмпіянаце ўдзельнічае дзевяць камандаў. "Мядзведзі" пакуль на восьмым месцы, але яны правялі на адну-дзве гульні менш за іншыя каманды. На рахунку "Мядзведзяў" адна перамога і два пройгрышы.

**Аддзел інфармацыі.**




Фотаздымак з мінулагодняга ралі. Сёлета такія машыны праедуць па Маладзечне.

# Ралі рэтра-аўтамабіляў упершыню пройдзе ў Маладзечне 10 чэрвеня

МАЛАДЗЕЧНА

**Упершыню ў сваёй гісторыі ралі старадаўніх аўтамабіляў "Олдтаймеръ Ралли" пракладзе свой маршрут праз Маладзечна. Завітае яно да нас у суботу, 10 чэрвеня.**

Першыя экіпажы пачнуць прыбываць у Маладзечна прыблізна ў 14:00. Іх першым пунктам прыпынку стане пляцоўка каля Лядовага палаца, дзе ўдзельнікі мусяць выканаць першую частку дадатковага задання. Пасля гэтага экіпажы будуць адпраўляцца на Цэнтральную плошчу горада. Там жыхары і госці Маладзечна змогуць блізка разгледзець рарытэтныя машыны, сфатаграфавацца побач з імі і нават стаць непасрэднымі ўдзельнікамі шоу. Таму што прыкладна ў 15:20 пачнецца конкурс "Фотапоспех", падчас якога экіпажы мусяць максімальна дакладна прадставіць дзеянні каманды механікаў Формулы-1 на піт-стопе, дзеля чаго могуць прыцягваць вонкавую дапамогу, у тым ліку і гледачоў. Пасля заканчэння гэтага конкурсу экіпажы вернуцца да Лядовага палаца для выканання другой часткі дадатковага задання. Што яно сабой будзе ўяўляць, стане вядома толькі непасрэдна перад стартам ралі – каб было нечакана і цікава. На гэтым удзельнікі "Олдтаймеръ Ралли" развітаюцца з Маладзечанчынай і вернуцца ў Мінск, дзе фінішуе першы дзень спаборніцтва. У нядзелю ўдзельнікі накіруюцца ў Пухавіцкі раён.

**Яўген СУХАВЕРХ.**

НАВІНЫ

## У міні-футбол гулялі выхаванцы псіханеўралагічных дамоў-інтэрнатаў

ВІЛЕЙКА

У дзіцячым рэабілітацыйна-аздараўленчым цэнтры "Надзея" 1 і 2 чэрвеня адбыўся штогадовы рэспубліканскі турнір па міні-футболе для выхаванцаў псіханеўралагічных дамоў-інтэрнатаў Seni Cup 2017.

Удзельнічалі 16 камандаў – прадстаўнікі розных абласцей Беларусі. Каманда Стаўбцоўскага дома-інтэрната заваявала галоўны прыз – паездку на Міжнародны фінал Кубка SENI-2017 у Польшчу.

Удзельнікі турніру атрымалі шмат падарункаў. У межах мерапрыемства прайшлі спартыўныя спаборніцтвы і творчыя конкурсы, канцэрт зорак беларускай эстрады. Пра ўсё гэта паведамляе senicup.by.

## "Смаргонь" саступіла "Белшыне"

СМАРГОНЬ

Пасля нічыёй з лідарам, "Смалявічамі СТГ", ФК "Смаргонь" у дзявятым туры чэмпіянату Беларусі па футболе ў першай лізе гуляў у гасцях з "Белшынай". Матч адбыўся 3 чэрвеня ў Бабруйску.

Смаргонцы адкрылі лік: гол на 26-й хвіліне забіў **Павел Дзямідчык**. Першы тайм завяршыўся з лікам 1:0 на карысць "Смаргоні". Але ў другім тайме смаргонцы ўмудрыліся за апошнія 25 хвілін прапусціць ажно чатыры галы. У выніку прайгралі 1:4.

"Смаргонь" апусцілася ў турнірнай табліцы на 12-е месца.

## "Ашмяны" вырвалі перамогу на апошніх хвілінах

МАЛАДЗЕЧНА, АШМЯНЫ

У сёмым туры чэмпіянату Беларусі па футболе ў другой лізе "Чысць" 3 чэрвеня дома прымала ФК "СДЮШАР №8" з Гомеля.

Першы тайм завяршыўся ўнічыю 1:1. У другім гаспадары забілі яшчэ два галы, на што госці адказалі адным. Выніковы лік 3:2 на карысць "Чысці". Два галы ў іх забіў **Дзяніс Казючыц** і адзін – **Аляксей Кашэўскі**.

"Ашмяны" сустракаліся дома з "Уздой". Да 89-й хвіліны госці вялі 1:0. Але потым ашмянцы зраўнялі лік: гол на рахунку **Вадзіма Міхалевіча**. А на 4-й дададзенай хвіліне перамогу ашмянцам прынёс **Уладзіслаў Давідовіч**.

"Чысць" набрала 15 ачкоў – гэтак жа як і "Маладзечна-ДЮСШ-4". Маладзечанцы ў гэтым туры згулялі ўнічыю 1:1 з "Любанню" на выездзе, гол забіў **Павел Галубовіч**. Ад лідара, "ЮАС", каманды адстаюць на чатыры ачкі. У "Ашмянаў" чатыры ачкі, яны займаюць перадапошняе месца.

**Аддзел інфармацыі.**



# Крыжаванка ад "Рэгіянальнай газеты"



**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Узор, жывапіснае графічнае ўпрыгажэнне, у аснове якога ляжаць геаметрычныя, раслінныя і жывёльныя матывы, што паўтараюцца ў пэўным парадку.
3. Зборнік паэтэсы з Маладзечна Марыі Шэбанец, выдадзены ў 2016 годзе.
6. З'ява, якая пераважае ў якой-небудзь сферы.
8. Хлеў для кароў, кароўнік.
13. Чак Паланік: "..., якімі ты валодаеш, урэшце пачынаюць валодаць табой".
14. Дзень каго адзначаюць 9 чэрвеня?
15. Звычай, традыцыя.
16. Дапамагае заключыць здзелку паміж прадаўцом і пакупніком.
17. Вельмі непрыемнае пачуццё.
18. У 1794 годзе ўвялі правіла, згодна з якім прадстаўнікі гэтага народа мусілі пераехаць у гарады і адмовіцца ад земляробства.
22. Кароткае меркаванне наконт чаго-небудзь.
25. У цяжкай атлетыцы падняцце штангі на грудзі, а потым над галавой.
26. Учынак, які супярэчыць агульнапрынятым нормам паводзін.
27. Штучная або прыродная пячора.
28. Распадабненне двух блізкіх па гучанні гукаў, а таксама распад складаных арганічных рэчываў у працэсе жыццядзейнасці арганізма.
30. Галоўныя пытанні эканомікі: што? ...? якой якасці?
31. Дадатковы тон, які дадае асноўнаму гуку асобае адценне або тэмбр.
32. Умацаваны абаронны агнявы пункт.
33. Які прадмет гардэроба вынайшаў Лівай Страўс?
36. Яго лічаць вінаватым у рэзкім падзенні аб'ёму продажаў наручных гадзіннікаў.
37. Яе нельга з'есці на сняданак.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
2. Калі прыходзяць праведаць жанчыну, якая нарадзіла дзіця.
4. Горка рэдзька, да ядуць, ліха ..., ды ідуць.
5. Адсутнасць святла, цемра.
7. Каза, што карміла Зеўса, пакуль ён хаваўся ў выгнанні ад свайго бацькі.
9. Пра што ідзе гаворка: "Яны чырвоныя?" – "Не, чорныя" – "А чаму белыя?" – "Таму што зялёныя".
10. Майстэрня па вырабе скур.
11. У Аўстраліі гэта пустыня, у Афрыцы вадапад. А ў змаганні гэта што?
12. Герб гэтага беларускага горада – "у блакітным полі залатое сонца, на якім блакітны трохвугольнік з чалавечым вокам – вокам божага наканавання".
19. Адзінка частаты перыядычнага працэсу.
20. Хуткі, ажыўлены тэмп музыкі.
21. Каму важней фармальнасці.
23. Паляўнічы-прафесіянал.
24. Палац і крэпасць феадала.
25. Брыжы з карунак выкол каўняра ці на грудзях мужчынскай сарочкі.
26. Канчатковы паказчык якіх-небудзь дзеянняў.
29. Адзінка напружання.
31. Чырвоны радок.
33. Печ для выплаўкі чыгуну з жалезнай руды.
34. Мястэчка ў 32 кіламетрах на поўнач ад Смаргоні, ля якога месціцца возера – адно з самых маляўнічых прыродных месцаў у Беларусі.
35. Упершыню ў Беларусі яго запусцілі ў Віцебску ў 1898 годзе.
38. Які страціў вільгаць.
39. Карункавая тканіна з выпуклым узорным малюнкам.

## АДКАЗЫ НА КРЫЖАВАНКУ З №22

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ.** 1. Фурор. 3. Фрахт. 4. Трэнер. 6. Чалма. 8. Максім. 9. Фюзеляж. 10. Шпрыц. 11. Вілія. 14. Пас. 15. Штандар. 17. Тло. 20. Строй. 22. Хапуга. 23. Цокат. 24. Чэзлы. 27. Пшаніца. 28. Роспіс. 31. Штоф. 33. Шчэлепы. 35. Сонца. 36. Псярня. 37. Шасцярня. **ПА ВЕРТЫКАЛІ.** 2. Чага. 3. Фортэ. 5. Цымус. 7. Зараз. 9. Фракцыя. 12. Фольга. 13. Чмут. 16. Шчоўк. 18. Сячкарня. 19. Тэакратыя. 20. Стульчак. 21. Удой. 22. Хорда. 23. Цэзура. 25. Шпаты. 26. Рэптылія. 29. Спярша. 30. Тайфун. 32. Турбіна. 34. Экасістэма. 37. Шчаўе.

● КУДЫ СХАДЗІЦЬ

## Выпускныя па ўсім рэгіёне і фестываль нацыянальнай кухні

**ВІЛЕЙКА**

Нашым гідам па мерапрыемствах у Вілейскім раёне на бліжэйшы тыдзень стала дырэктар Палаца культуры **Алеся Высоцкая.**

– Бліжэйшая пятніца, 9 чэрвеня, я думаю, нічым адрознівацца не будзе ва ўсіх гарадах. Пройдуць выпускныя балі. У Вілейцы ўрачыстае шэсце выпускнікоў пачнецца ў 18 гадзін. На плошчы лепшым выпускнікам будуць уручаныя залатыя і сярэбраныя медалі. Сёлета мы вырашылі адмовіцца ад выступлення калектываў, і канцэрт на плошчы зладзяць самі выпускнікі. Адбудзецца сімвалічная перадача ведаў першакласнікам, у неба запусцяць вялізны званочак, сімвал апошняга званка.

А вось у наступныя выхадныя, 17 чэрвеня, у вёсцы Ізбіно пройдзе вялізны фестываль нацыянальнай кухні.

– Артысты нашага палаца падрыхтуюць канцэртныя нумары, а вось страў нацыянальнай кухні, як абяцаюць арганізатары, будзе на любы густ.

**Наталля ТУР.**

● ГАРАСКОП 9-15 ЧЭРВЕНЯ



**АВЕН.** Займіцеся сабой, прывядзіце ў парадак нервы. Для гэтага вам спатрэбіцца перапынак у справах ці проста зніжэць нагрузку на сябе. Поспехі ў справах хоць і радуюць, але забіраюць шмат сіл і ідуць у разрэз з патрэбамі ўнутранага свету. Для дасягнення гарманічнага стану вам прыйдзецца шмат што змяніць, і гэтыя змяненні зачэпяць усе сферы вашага жыцця.



**ЦЯЛЕЦ.** Звярніце ўвагу на свой быт, на справы, якія адбываюцца ў вашай сям'і, на патрэбы блізкіх і родных. Цяпер вы займаецеся фінансавымі пытаннямі і робіце спробы для паляпшэння свайго матэрыяльнага стану, лічыце, што гэта прынясе вам спакой і задавальненне. Але калі вы будзеце пастаянна думаць толькі пра сябе, то гэта можа прывесці да негатыўных вынікаў. Рабіце высновы.



**БЛІЗНЯТЫ.** Вам прыйдзецца задумацца аб эканоміі, бо на цяперашні час вам прасцей пачаць менш траціць, чым больш зарабляць. Для вырашэння жыццёвых праблем спадзявайцеся на сваю інтуіцыю і азарэнне – адказ на шмат якія пытанні прыйдзе сам па сабе.



**РАК.** Дні спрыяльныя для сям'і, умацавання адносінаў, планавання сваёй будучыні. А таксама для таго, каб наведаць сваякоў ці запрасіць да сябе гасцей. Яшчэ дні багатыя на ідэі і новыя захапленні. Але гэты час можа несці і канфлікт інтарэсаў, калі вы будзеце недастаткова ўважлівыя да чужых меркаванняў і жаданняў.



**ЛЕЎ.** З новай сілай праявяцца вашы арганізатарскія і лідарскія здольнасці, што пойдзе на карысць любой справе. Плануйце вялікія здзяйсненні, і яны закончацца поспехам.



**ДЗЕВА.** Каб атрымаць перамогу, вам неабходна ацаніць сябе і ўсе свае матывы справядліва. Бо самы галоўны вораг – вы самі. Вы ставіце ўсё пад сумненне, не верыце ў свае сілы і здольнасці. Паверце ў сябе, і шлях да поспеху будзе нашмат прасцейшы.



**ШАЛІ.** Гэты перыяд больш падыходзіць для адпачынку і веселосці. Наладжвайце вечарынкі, сумесныя паходы. Добра і проста спакойна адпачыць. А яшчэ прыйшоў час пажынаць плады сваёй дзейнасці. А калі вы і сапраўды стараліся, то і плады будуць адпаведныя.



**СКАРПІЁН.** Гэтыя дні будуць адзначаныя небывалым успёскам пачуццяў. Незалежна ад таго, ёсць у вас адносіны цяпер ці няма, вам захочацца новых палкіх адносінаў, новых эмоцый і новых знаёмстваў, якія лёс вам з радасцю падасць. Верагодна, перад вамі паўстане няпросты выбар.



**СТРАЛЕЦ.** Не варта перажываць па дробязях, якімі б значнымі яны для вас ні здаваліся. Кожнай падзеі трэба даваць узважаную ацэнку, нічога не перабольшваючы і не прымяншаючы. Гэта жыццёвая мудрасць будзе актуальная для вас менавіта цяпер, што дазволіць вам захаваць спакой, дабрабыт у сям'і і на рабоце.



**КАЗЯРОГ.** Не варта на гэтых днях дабівацца ісціны, справядлівасці адстойваць свае правы, часам трэба дазваляць падзеям ісці сваёй чаргой, не ўмешвацца ў іх.



**ВАДАЛЕЙ.** Дні абяцаюць быць цікавымі і багатымі на падзеі. Але гэта не азначае, што яны будуць для вас простыя. Прыслухоўвайцеся да любых парадаў, нават калі яны разыходзяцца з вашым меркаваннем. Усё гэта спатрэбіцца ў другой палове перыяду, які запатрабуе ад вас самастойнага прыняцця рашэнняў і руху наперад. Вас чакаюць новыя адкрыцці, перамены. Але да чаго гэты шлях прывядзе, залежыць ад правільнасці вашых учынкаў і жадання што-небудзь рабіць дзеля сябе.



**РЫБЫ.** Энтузіязм, творчыя здольнасці дапамогуць вырашыць любыя пытанні. Для вас наступіў перыяд поўнага бязмежнага шчасця. Не дазваляйце блізкім абмяжоўваць вашу свабоду.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | 2 | |
| | 8 | | | | 6 | 9 | | 4 |
| 6 | | 2 | 1 | | | 5 | | |
| 4 | 5 | | | 8 | | | | |
| | 2 | | | | | | 9 | |
| | | | | 6 | | | 4 | 5 |
| | | 1 | | | 8 | 3 | | 7 |
| 8 | | 7 | 3 | | | | 1 | |
| | 6 | | | | | | | |

**Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.**



9 771991 715006
ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

## НАДВОР'Е

### 10 чэрвеня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +12 / +21 | | +12 / +21 | | +16 / +21 | | +16 / +17 | |
| | 745 | ↘ 2 | 742 | ↗ 2 | 742 | ↗ 2 | 733 | ↑ 10 |
| Вільня | +9 / +20 | | +14 / +22 | | +13 / +21 | | +16 / +20 | |
| | 754 | ↗ 2 | 751 | ↑ 4 | 751 | → 4 | 738 | ↗ 8 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць ападкі; Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с; Усход, заход па Маладзечне

Усход 4.38
Захад 21.45
Даўжыня дня 17.07

Усход 22.09
Захад 5.46
Квадра 3




## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я

### АШМЯНЫ

Мінімальная тэмпература +2,2 °С у 1982 годзе
Максімальная тэмпература +29,5 °С у 2010 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 18,1 мм у 1988 годзе
Паводле meteoinfo.by

## АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МАЛАДЗЕЧНА



Фота Зоі КРЫЦКАЙ.

**У межах Нацыянальнага фестывалю сёлета правялі і спартыўнае свята. Былі спаборніцтвы па пляжным валейболе, гарадошным спорце. Гледачам паказалі кароткія выступленні дзюдаістаў, фехтавальшчыкаў, прадстаўнікоў грэка-рымскай барацьбы і бокса. На фота – дзяўчаты, якія ўдзельнічалі ў змаганні па пляжным валейболе.**

## Чытайце праз тыдзень:

**Працяг рубрыкі "Лепшыя футбалісты лепшага горада". На гэты раз на сустрэчу ў "Рэгіянальную газету" прыйшоў Максім Чабрыцкі. Пра яго таямніцы, звычкі і перамогі чытайце ў наступным нумары.**



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2. Тыраж 5000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№23 (1154) 9.06.2017. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02330/190 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 542. Падпісана ў друк у 9.00 8.06.2017.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.** E-mail: reklama@rh.by, regionnews@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004 у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226, атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ВІЛЕЙЦЫ І МАЛАДЗЕЧНЕ

# Чым вам запомніўся выпускны?



**Алеся Сэсарава, настаўніца, Вілейка:**
– Памятаю, як плакала. Як не хацела развітвацца са школай. Памятаю хвалюючы момант уручэння атэстатаў, белую сукенку. І адчуванне, што пачынаецца нейкі вялікі шлях.



**Уладзімір Кажамяка, пенсіянер, Вілейка:**
– Вучыўся я не вельмі. Праўда, у апошнай чвэрці ўзяўся за розум. Але не чакаў, што на выпускным мяне неяк адзначаць. Калі ўжо ўсіх адзначылі, убачыў, што мой класны пабег у настаўніцкую. Выбег адтуль з кніжкай Пушкіна, закрычаў "увага!" і ўручыў яе мне.



**Вольга Шляпо, намесніца дырэктара Дома культуры, Вілейка:**
– Школу я заканчвала ў Рэчыцы на Гомельшчыне. Мы гулялі па ўзбярэжжы Дняпра. Світанне сустрэлі ў чатыры раніцы. А ў шэсць мне ўжо трэба было ехаць у Мінск, падаваць дакументы. Таму дадому я не пайшла, а адразу павезла дакументы ў БДУ.



**Кірыл Комар, студэнт, Маладзечна:**
– Нічога асаблівага не скажу вам. Стужкі, шарыкі, атэстаты. Шампанскае ў кампаніі бацькоў і настаўнікаў. На выпускным не плакаў. І цяпер па школе не сумую.



**Вольга Воінская, музыкант, Маладзечна:**
– Скончыла дзевяць класаў экстэрнам у вячэрняй школе. Паціснулі адзін аднаму рукі і ўсё. Памятаю СШ №8, сумую. А весь выпускны з цікавай праграмай, бацькамі і настаўнікамі ў СШ №6 не забуду ніколі. Праўда, гэта было пасля пачатковай школы. А яшчэ сапраўдны выпускны быў у музкаледжы імя Агінскага.



**Іна Хадзькова, тавараэнаўца, Маладзечна:**
– Ой, гэта ж так даўно было! Памятаю, як сукенку ружовую ў атэлье шылі. Прычоску ў цырульні не рабіла. Мама сама круціла мяне на бігудзі. Помню тады, у сярэдзіне 1990-х, мы, як дарослыя, пілі шампанскае разам з настаўнікамі. А цяпер на выпускных не даваляюць ні кроплі спіртнога.



**Андрэй Анішчык, будаўнік, Маладзечна:**
– Я дзевяць класаў заканчваў. Таму пасля школы ўрачыстага выпускнога не было. Проста аддалі пасведчанні. Сапраўдны выпускны быў пасля каледжа: з дыскатэкай, рэстаранам і світаннем.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**